


К а с я   С я н к е в і ч

# Гарбата з незабудак

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2014

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
С99

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 55.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Сянкевіч, К.**
С99 Гарбата з незабудак : вершы / Кася Сянкевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 100 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 55).
ISBN 978-985-7089-91-8.

Кніга вершаў маладой беларускай паэткі з Польшчы Касі Сянкевіч знаёміць чытача з тонкім светам шчырых дзявочых пачуццяў. Вечныя тэмы кахання, веры, пошуку свайго месца ў сусвеце напоўніцу раскрываюцца ў пранізлівых маналогах-споведзях аўтаркі за кубачкам «Гарбаты з незабудак».

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-91-8**

© Сянкевіч К., 2014
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2014

*

я малілася траве.
вуха травы слухае.

*

няма гадзін позніх
няма і ранніх
ёсць толькі секунды
пераплеценыя паміж пальцамі птушак

*

ніхто не ляжыць на падлозе
хапае месца
можна хавацца ў шуфляду
ніхто не запальвае святла
досыць часу
можна яго спыніць выламаўшы стрэлкі
ніхто нас не шукае
мы зусім недалёка
мы бачым сябе без твару

*

крыху адрозніваемся
толькі той розніцай
калі а другой уначы
я блукаю каб прачнуцца
ты прачынаешся каб блукаць
нас апісваюць
сваімі прыметнікамі
сёння мы толькі адзінкі
якіх не ўмеем назваць

*

Дзе хаваеш сэрца?
Дзе хаваеш імглу?
(не пытаюся)
Я — дачка ружы.
Паколеш сабе пальцы.

*

Вяртаюся,
Іду.
Ідучы, ірву палявыя
кветкі з лістотай
дрэў.
Прыйшла,
ёсць
і, існая, чытаю
ўвесь букет —
сляды словаў
што прагнуцьісці
назад.

*

Ніколі не выкіну цябе з сэрца.
Тут столькі пустых крэслаў!

*

Абмінаюць
прытвараюцца сляпымі камянямі...

І мы абменьваліся
кітайскімі супікамі ў парашку
з рэштак падсвядомасці.

*

ці магу я быць для цябе
малой так нармальна
маладой так натуральна
з сівым тварам ад сівога плачу

скажы мне няпраўду —
праўду сама ведаю добра

*

гэта праўда —
ёсць такі сшытак
праўды пра мяне
ёсць такое месца для сонца
з другога боку зямлі
у сне іду сваёй сцежкай
да пачатку

*

усю цемру мусіш сцерагчы
яе цяжкую зброю трымаеш пад ложкам
не без віны як кожны
чаму ж расказваеш ёй пра мяне
я нават табе
пра цябе не згадваю

*

Адчуваю вялікую прорву паміж
успамінамі —
бясконцую прорву сну.
І я адчуваю гэта,
калі ўсведамляю, як
выглядаюць даўнія вочы змроку,
як яго вусны цешацца
з майго плачу,
з маёй далікатнай шыі.
Ледзь трымаюся цела,
якое адлятае туды, дзе няма болю,
кудысьці на луг,
паміж хмар.

*

Я купіла табе луг,
ды забылася
падарыць яшчэ дождж.
Ты не мог дараваць мне букетаў —
прыносіў сасновае голле...

*

Калі паміраюць мары,
пакута мае смак падпсаваных яблык
і назгадвае жывых вос,
нічога не дапамагае, нават прасціна,
поўная слёз,
апошні покліч гасіць агонь.

Калі паміраюць мары,
паміраюць таксама душы людзей.
Хачу ўсмешкі,
ледзь чутнага слова.

У руцэ ветру ёсць надзея,
а над намі ўсё плыве неба,
не хачу ўжыцца глыбока
ў няздзейсненую зямлю
д’ябла.
О, Божа!

*

Прабачаю ўсё, я ўсё заслужыла —
пакуты, самоту, няісны праклён.

Я пакінула ўсіх, і засталася адна
лічы за нікога.
Толькі цяпер, як ніколі раней, зразумела:
я ёсць.

*

пакіньце ўжо мяне мне самой
пакіньце
пакіньце сабе гэтак хутка як можна

хачу быць вашым сонцам
а вы хочаце каб была чарвяком

# Месяц

рэштка дня
цяжка ляжала ў тваім
капелюшы ўспамінаў
расчаравалі людзі
месяц не скончыў
маляваць ноч

*

Не пазнаю ўласных пачуццяў
пачуцці перашкаджаюць мне думаць
я магла б успамінаць увесь час.
Увесь дзень твой твар.
Увесь дзень тваю сумную
ўсмешку. Увесь дзень
выпадковае слова.

*

бачыла цябе ў згнілым святле
іржавых
планетаў
была тваёй даланёю
той самай у абодвух водблісках

яшчэ ўчора быў поўдзень
і мы хацелі аб ім размаўляць

*

знайшла сухія вусны
і пару пастэльных алоўкаў,
знайшла наіўнасць,
пamаляваную чырвоным —
самота чакае мяне
на беразе неіснавання.

*

Дарога вядзе
ад травы да пяску,
ды не пайду па ёй,
пашукаю сцежкі.
Не, не ішоў сюдою забойца.
Не, не было ўсмешкі.
Калі гляджу на дарогу,
не бачу ніякіх перашкодаў.

*

Чакаю чагосьці, што потым
буду называць успамінам,
доўга пакутую, бо не можа быць
інакш.
Ядвабная надзея ўжо высцілае
маю галаву ўнутры,
упэўнівае мяне, што хачу дабра,
наіўная.

# Дух і люстра

чакаеш што пераапрануся
і надзену скуру
у якой змагу адчуваць сябе
сабою

не жыву
ты вось спазнаў
мой найбольшы сакрэт

калі я жыла
насіла сукенкі
ў кветкі
хачу іх табе паказаць
хоць гэта кавалак анучы
я была ў іх прыгожай
кажуць

дай мне толькі некалькі хвілінаў
гэтага зямнога
смешнага часу

*

Мы знаёміліся
па-рознаму.
Свяціў дождж
ішло сонца
агулам надвор’е
было прыгожым у сэрцах.

Мы гулялі галовамі
у кожнага з нас
было іх па дзве.
Наляцеў вецер
і расплюшчыў нам вочы —
нехта з нас меў два абліччы
я ж не мела твару.

*

наступная ступень расстання
не шкадую, што прапусціла некалькі
прыступак адразу
замест таго, каб паступова адыходзіць
ад цябе
я побач
блізкасць нас спапяляе
не чую, што кажаш
не бачу, што робіш
дакрануліся нашыя цені
каб адысці

## Анёл

ніхто не хоча цябе пакрыўдзіць
не бойся
хоць баліць табе
сам час
не ведаю як гэта зрабіць ды тваe вочы
павінны пахнуць шчасцем
адчувальным
адбудуеш свой свет
паміж зямлёй і небам
на мяжы той самай песенькі
якую свядома
выбераш
сама

## На канцы дажджу

на канцы дажджу, дзе мокрае сонца
там мае слёзы смуткуюць па табе
на іншым баку свядомасці мне здаецца
што бачу цябе
ты ж мусіў быць паветрам
без колераў

## Па паверхні неба

па паверхні неба
аблокі перасоўваюць дрэвы
душа дзяўчынкі малой
плыве адной хмарынкай
сам-насам у вялікім доме жыцця
дрыжыць ад думкі пра адсутнасць
мелодыі тваіх вуснаў

# Незнарок

Незнарок, з іншым тварам,
прыклееным да столі,
чакала я досыць доўга.
Чакала, пакуль абсохне сляза,
цягнік астыне і выпарыцца.
Чакала.
Атрымлівала ўзамен
мройныя,
горкія
плады.
Гэта было так даўно.

## Калі баляць думкі

не рабі мне на злосць
гэта небяспечна:
прыцягваю праклёны
і чорных катоў

я жыла з чорнай кіскай
і чараўніцай
была праклятая

раней я раззлавалася на свет
выдумала лепшы

не бачыш мяне зблізу
калі баляць думкі

*

Гэтая справа не для абмеркавання.
Прыгадай
апошнюю ўсмешку
апошні наш сум.
Пра тое магла б быць
напісана паэма
а ёсць толькі гэты кароткі
верш.

*

Хочаш зашыць дзірку
ў тканіне нерухомага святла
але найперш робіш выгляд
што яе не бачыш
замест нітак
ірвеш валасы на галаве ад страху.

Павіншуй сябе —
маеш ужо боль,
прычыну для
крыку.

## Самота

не магу шукаць разуменне —
мая кара грунтуецца на тым
што добраахвотна мушу
быць адна
патрабавальная самота хоча дабра
не вазьму нічога —
аддам усё

## Ёсць

людзі разумеюць мяне праз маўчанне
табе расказваю гісторыю
ты не разумееш

памятаеш дэталі
колеры чужых вачэй
ды не верыш ні ў адно слова
я ж
веру ў кожнае

## Настрой

Думала, што ты ўсцешышся,
і цешылася ў думках
разам з табою.
Значыць, мы сёлета
вылечыліся ад пакут.
Дык вып’ем за выздараўленне.

Я змяніла таксама валасы,
іх колер,
каб супольна святкаваць,
як на вяселлі, —
такім чынам я цябе страціла.

## Кветка

Лёгка ўзяла дзявочую кветку ў зубы —
і памяняўся мой погляд.

Магла б намнога больш,
паўтарылася б мінулае:
падвойны смак болю, калі б ты хацеў.

Аднак такое каханне праходзіць
праз пятнаццаць хвілін — як голад.

*

голая
бессаромная
цёплая
для іншых неабгрунтаваная
першабытная

накручваецца як музычны куфэрак
калі адчуваем сваю прысутнасць
грае калі праходзіць побач
застывае на кароткую вечнасць
настолькі, каб мы паспелі захапіцца
думаючы:
якія ў цябе прыгожыя вочы
Бога

*

страхі хіміі дэманічнай нефізічныя
экстрасенсорныя адчуванні афізіялагічныя
жаху ад слова больш чым ад ільва
павялічанага да павышэння хвалявання
паднятага да ступені маўчання

# Дом пакут

Думаю безупынна
ў кожную
вольную і нявольную хвіліну (адгадай).
У сне (таксама)
зачыняла дом пакутаў —
не ўдалося.
Ды зрабіла гэта бабуля,
тая, што цяпер анёл...
Хачу, каб гэты сон быў (пра цябе).

## Брыльянт

брыльянт у куце
вока (хварэю каханнем)
гожы твар люстра
суцяшае хвіліну
пагарджаю
целам
светам
страхам
ніколі не паверу
што не можам быць
разам

# Калі яе няма

калі яе няма толькі тады я ёсць
прысвячаеш мне нават позірк
дзякую

калі ты з ёю і бачыш мяне
апускаеш галаву
каб паглядзець у вочы мурашкам

# Вада

Ільдзістая звалка жалю, з застылай бруднай вады ўспамінаў. Трускаўкавае марозіва маны. Чысціня падае на зямлю, толькі тады робіцца брудам.

*

я растаптала кветку што бегла за мной
з пакрыўджаным тварам
сівых валасоў
(хто можа ў насычаных колерах
абвінавачваць галаву існаваннем
адзіноты дрэваў?)

калі будзеш уцякаць наткнешся на нож
не хачу аплакваць прахалодныя рукі
мае валасы адрастуць толькі тады
калі перастане рваць іх гора

*

я свецкая і
самазакаханая
калі б была анёлам
і не мела на галаве
цяжару дурнот
толькі арэол
не прасіла б
крыху яшчэ пабыць адной
але прашу

*

адчуваю да цябе
дарэмнае вечнае каханне
без прычыны
таму руйнуй
маю радасць быцця
абсмейвай
наіўную ўсмешку
разбурай сэрца як
кубікі лега

## Драбіна

Самае лепшае забыцца пра цябе —
бо ты жывеш завысока.
Спрабую ўзняцца туды —
лепш каб ты не бачыў мяне на драбіне
думак.
Уздымаюся нашай агульнай
лесвіцай
бо правільны кірунак вядзе да вяршыні
хоць і не акрэслены загадзя.

# Цукар

мая ўсмешка больш
не хлусня
таму што сёння
жоўтая
смерць мая
памірае ўва мне
цукар майго смутку
не выраблены
з цукру

## Цяпер адна

калі гэта не грэх
тое што адчуваю
чаму пакутую —
чаму зачыняеш
перада мною
царкву
нельга кахаць
і ненавідзець

затое мой магнітафон
сам наладзіўся

## Ліст незнаёмаму

Калі змагу цябе
Пакахаць
Узаемна
Буду маліцца на цябе
Калі ты не будзеш блізка

Буду ставіцца, як да храма
Найшчаслівейшая з жывых

Калі мяне пакінеш
Не перажыву смерці
Бога

## Дапамога

памажы сабе сама
стань перад сабою
тварам у твар
не глядзі яму ў вочы
ён не твой
можа
куснуць

## Не

засмучаеш мяне беспадстаўна
бясслоўна паўтараеш слова «не»
не ўзіраючыся ў мяне
гледзячы ўсюды
толькі не ў вочы мае

тваe плечы падаюцца сумнымі

*

я не так зразумела
тваю ўсмешку —
выпадкова
глянула ў вочы:
матыль кахання
памёр
перш чым перастаў
быць вусенем

*

недакладныя рыфмы
падзеяў
анафарычна паўтараюцца

## Туга

сыходзіць праз столь
каналікамі веек
стварае дождж
налівае збаны горла
запаўняе крэсла пад сабою
становіцца іншай асобай
табою

*

з неба істоты снежныя
кажуць ісці
страх разважаць
лёгкадумна паддаюся ім
аракула шукаю
не давяраю вуснам

*

чорная кроў вачэй
тэлефонам замоўчана
згасае стамлёны агонь
апошні досвед
апошнія слёзы
з пахам тваім

*

шкадую,
можа нават упадзе слязінка
але не хаваю пад дыван ценю
няма словаў
і хай мне
я досыць маўчала

*

гляджу ў рэха маўчання
бясконцае цела ценю
плод яго рве галіну

з ізаляцыі дрэва
пачынаю ведаць
што ёсць
чаго няма

*

можна акрэсліць толькі
пейзаж вакол таемнай ісціны
якую зразумееш толькі праз
Бога

*

можа параніў мяне гэты павук
можа параніла мяне муха
можа параніў мяне ты
а можа я сама сябе параніла

*

няма лякарства толькі дождж
цуду
можа памыцьмаё сэрца.
Госпадзе,
развяжы клубок душы.

# Знайдзі словы

знайдзі ў словах
электронных
кроплю
вельмі мокрую
што робіцца рэальнай
думкамі
найбольш смелымі марамі

*

Праверыла ці магу перастаць цябе
бачыць
хаваючы попел фотаздымкаў
букет завялых месяцаў.

Відавочная адсутнасць твайго твару
ў сэрцы
дазволіла пражыць
адзін дзень
без слёз.

*

даведацца праўду цяжэй чым збіраць
яблыкі
лашчыць чужую шыю
дакранацца да цябе вуснамі

*

Рай мараў пабудаваных з
перпендыкулярных гарызонтаў
бясконцага неба, бясконцых садоў
якія жылі ў адзін час.
Ахінаюць мяне хвалі і прытуляюць дрэвы,
сонца казыча шчаку.
Вада мае пах язміну.
Я дасюль толькі адна на гэтым малюнку,
выліваецца парфума з валасоў.
Бачу рэха святла, што кідае чырвань
тваёй постаці, што сыходзіць.

*

боль можна адчуваць пальцамі
прыкладзенымі да гнязда
валасоў
адчувальная пад пазногцямі ў тоўстасці
пукатых венаў-аўтастрадаў
быцця стомленай душы.
радасць прыходзіць на час,
паміж пакутамі.
прыходзіць і сыходзіць, незаўважна.

*

зачараваныя думкі якія не існуюць
былі мэтай святла

свяціліся нават у цемры павекаў
паветраныя сукенкі феяў

*

ці пойдзем разам дарогай да столі?
мы будзем шукаць ягады і згубленыя лісты
знойдзеш маю душу на ўзбочыне
нашыя слёзы будуць пахнуць
і будуць апошнімі.

*

Чым ёсць свет пабудаваны на ілюзіях?
Наіўным, нудотным вершам

можаш плакаць.
Твае слёзы выклічуць вясёлку.

Хачу ажыццявіць мары чарадзейнай
пенкай.
Патрэба новай зямлі, сапраўднага пяску.
Не шукай слёз пакінутых ўчора
дададзеных да хлеба,
падзеленых на плыні

*

простыя прамень сонца, вырысаваны
вектарна
матэматычна дасканалыя твары хат
замыкае прастору цёмнае неба
не ад цемры, а ад колераў

*

зялёнай травы купіна структура залатога
лета
блакітны арнамент васількоў левітуе
на фоне неба
не ведаю пра што я павінна была забыцца
ўчора
п’ючы гарбату з незабудак.

*

мы нават не выкінутыя на сметнік
на зорках кажуць, што нас не было ніколі
глядзім у люстэрка, каб мімаходзь убачыць
што нас, вядома, ніколі не было
схаваных у цесных шафах існавання

*

далікатная, карункавая
згушчанасць пачуццяў
разам з разрывам выклікае крывацёк
турботаў
інсульт смутку інфаркт свету
валіцца на галаву
самы каштоўны напаўняльнік
не запаўняе пустэчы
застаецца тунелем
з’ядае радасць
да вантробаў

*

хто з’еў папяровую галаву праўды
калі размаўляем пра нешта
лягчэйшае чым паветра?

*

мяжа слізкая між містыкай і магіяй —
я не баюся
добра ведаю гадзіннік пакутнай душы
і гарачую магму пачуццяў
што атуляе мозг
сухі ліпучы смак пакуты

я не ведаю
адкуль
гэтая ідэя
што цярпенне падзяляецца пароўну
аскетычная пакута
па шчаслівым
апошнім часе
боль — білет
на шлях да неба

*

адурманеная
аглухлая
шукаю дзірку ў галаве
з цяжкім грукатам мары
разбіваюць ілбы аб гару
ты — чорная дзірка
сістэматычна даю табе новае імя
ў думках
кожнае наступнае
гучыць больш брыдка
вульгарна
суб’ектыўна

*

Я нячулая, калі ты робіш выгляд
прысутнасці,
я знікаю ў сваёй адсутнасці.
Адыходзіць мая наяўнасць,
вынаходжу новыя словы
без цябе.

*

гледзячы ў люстра ў ванне
у пустым пакоі падчас сну
пішучы вершы дзякуючы табе
я авалодала мастацтвам
плачу крывёй

*

неўзаемная
чырвань
вісіць у паветры
якое мяне душыць

усе часціны цела
крычаць

аднак не гэта
прычына болю

каханне як смерць

я замаладая
для смерці

*

каханне
якое падаруеш
вернецца
не бойся даць
раней ці пазней
хтосьці ўбачыць
тваё нябачнае
сэрца
не прасі нічога
ўваходзячы
праз акно ў чужую хату

*

прынада голасу
прынада слухання
наркотык паэзіі
фантазія
вера ў нябачную эмоцыю
нетыповую для нас
бо не хоча тлумачыцца параўнаннямі

*

Я вяртаюся, па новых
правілах.
Цябе няма, прымаю пад увагу гэты факт.
Ты плод майго ўяўлення.
Вернешся, раней ці пазней
з краю неіснавання.

*

калі заплюшчваю вочы
кантакт з зямлёю захоўваю толькі
праз магнітафон
і калыханку
душы мурашоў у маіх вушах крычаць
боль галавы не падобны
да вызначанага ў медыцыне
хачу намаляваць малы крыжык на грудзях
ды рука не малюе
запальваю святло
лямпа гасне
ратунак прыносіць толькі
найсаладзейшая думка
просьба да Бога
Яго любові

*

бурбалкі мутнай вады
што ўраўноўвае ўсё
да цёмнае плямы з бруду
песімізм забівае душу
пахне як дым з нутра зямлі
дзе гарыць маці вулканаў
ці можа быць гэта дым ад цыгарэт

*

твая мудрасць фрагментарная
твае веды вымяраюцца ў міліметрах
рашуча пацвярджаеш, што ведаеш усё,
пакажы, як усміхаешся, жуючы
штодзённы горкі хлеб пакуты

## Аўтапартрэт

вёдры крыві.
магма пачуццяў застываючы цвярдзее.
пасля абпалу яна ўжо моцная
але ўсё яшчэ разбітая на дробныя
кавалкі
мазаікі.
пераходзячы побач скажаш што гэта
прыгожа і адыдзеш нават калі спынішся
на момант захаплення
каб пакінуць

*

калі б я магла маўчаць не маючы цябе
пры вуснах
выказала б усё
мімікай твару
якія чуе паветра
высцеленае вершамі
што высыпаюцца з кішэні
з хустачкамі

*

хацела б быць увесь час малой чырвонай
кропкай
у натоўпе галоў
пад сцэнай дрэваў, ашалелых ад ветру
зменлівага надвор’я тваіх вачэй
іх святла, што паглядае ў мой бок
каб перасылаць шматкроць на адпаведны
адрас
шматколерны вобраз хваляванняў
якія спалучаюцца праз
і незалежна ад кіламетраў
мараў

*

хто спадарожнічае цішыні
калі смяюся
каб дашчэнту не растапіць малых вачэй

*

у маёй пасцелі спяць чараўніцы
вострыя пазногці ўбіваюць
жвір у горла
карычневую згушчаную кроў уліваюць
праз тунелі вушэй у студню сну
у маёй пасцелі спяць дэманы
будзіць мяне негатыў тваёй далоні

*

расчараванне анулявала ўсе магічныя
закляцці
мы ўжо не паперкі ад цукерак з
шакаладам на пальцах

## Вера

— маці адзінокіх
пешаходаў сляпых вуліц.
гравіруе сажай у гарачых зорках
і пасыпае сонца попелам

*

цяжкія ад балота лісты
жаху,
іх хрыбетнікі
згінаюцца ад гора.

сэрца б’ецца хутчэй
чым магу бегчы
за табою.

*

не магу перастаць
давяраць
— я не давяраю

— не хачу
адкрывацца
— баюся слухаць
баюся верыць

і ўсё ж не магу перастаць

*

кожны твар з’яўляецца
больш ці меней пасняховым арнаментам
засеўшы ў нашых галовах
адыходзячы пакідае

— чорныя дзіркі —

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 55

**Сянкевіч** Кася

**Гарбата з незабудак**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Б. Сачанка*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 22.09.2014. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 4,63.
Ул.-выд. арк. 1,16. Наклад 200 ас. Зак. 511.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/218 ад 14.04.14.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.